• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

1 верасня 1998 г. аўторак, № 171 (23522)




# ЗВЯЗДА

## У ДЗЯРЖАЎНЫМ ГАНДЛІ ЦЭНЫ ЯШЧЭ «ТРЫМАЮЦЦА». АЛЕ ПЕРШЫЯ «ЛАСТАЎКІ» ЁСЦЬ УЖО І ТУТ

**Фінансавы крызіс у Расіі, які «гасцюе» ў нашай суседкі ужо 3-ці тыдзень, пачаў прыносіць свае даволі «горкія» вынікі. Разам з хуткай дэвальвацыяй расійскага рубля, у гэтай краіне пачаўся буйны рост цэн амаль на ўсе тавары. Хваля новых цэн дакацілася і да Беларусі. Першы ўдар гэтай хвалі прыняў на сябе недзяржаўны рынак. Дзяржаўны гандаль мяняць цэннікі пакуль не спяшаецца. Але першыя «ластаўкі» ёсць ужо і тут.**

Карэспандэнт «Звязды» пабываў у некалькіх дзяржаўных крамах сталіцы. Становішча ў іх было амаль аднолькавае. Так, у абодвух магазінах у продажы ёсць каўбаса першага гатунку, коштам ад 85 да 100 тысяч рублёў. Усе астатнія каўбасы, нават вараныя, але лепшай якасці каштуюць болей за 200 тысяч рублёў. Ялавічыну і свініну першай катэгорыі (не самая лепшая катэгорыя) прадавалі па цане 84.400 і 103 тысячы рублёў адпаведна. Рыба таксама ў цане яшчэ не падрасла, але кошт яе і дагэтуль быў, мякка кажучы, астранамічным. Вэнджаная скумбрыя, напрыклад, каштуе 264 тысячы рублёў за кіло.

На працягу доўгага часу ў адным з магазінаў не было рысу. На днях яго завезлі ў краму. Але замест старой цаны ў 40 тысяч рублёў зараз рыс будуць прадаваць ужо па 60(!) тысяч рублёў. Разам з новай партыяй завозу паднялася цана на муку ад 17.500 рублёў за кілаграм да 25.300 рублёў. На 3—7 тысяч падскочылі цэннікі і на макаронныя вырабы. Паднялася цана на соль ад 5500 за кіло да 7500 рублёў. А вось шматкі аўсяныя «Геркулес» зараз нават на 3 тысячы рублёў танней, чым на рынку і каштуюць тут усяго 12500 рублёў за ўпакоўку.

Яшчэ напрыканцы мінулага тыдня ў краме, што каля Акадэміі навук, у продажы быў алей па цане каля 100 тысяч рублёў за літр. Але за два дні алей «размялі» і зараз у краме на паліцах стаіць французскі алей «Lesievr» за 189 тысяч рублёў за літр. Па якой цане завязуць наступную партыю таннага алею, ніхто ў магазіне пакуль не ведае.

Усе астатнія імпартныя тавары зараз прадаюцца па старой цане. Як патлумачыў адміністратар аднаго з магазінаў: будзе новы завоз тавараў — будуць і новыя цэны.

Як паведамілі рэдакцыі ў Міністэрстве гандлю, рысу зараз на нашым рынку не хапае. Каб не было перабояў з гэтым таварам, прыйдзецца закупляць яго ўжо па новай цане, на 10—15 працэнтаў даражэй. Таксама, недзе на 10 працэнтаў, падаражэе для краіны алей. Як адзначыў суразмоўца, застануцца ранейшымі цэны на цукар. Справа ў тым, што цэны на гэты харчовы прадукт дэкларыраваны Саўмінам і падняць кошт цукру мае права толькі Міністэрства эканомікі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Першы званок для бабы Надзі



Самых маленькіх вучняў на самы першы іхні ўрок прыводзяць звычайна таты і мамы. Так, прынамсі, было ўчора ў мінскай сярэдняй школе № 2. Толькі шасцігадовую Сюзану Сухан прывяла да школьнага ганка яе бабуля. «Ну проста залатая твая баба», — так і хацелася сказаць гэтай з нулявога класа, вучаніцы. Крыху пазней, як прагучаў сімвалічны першы званок, Надзея Нікіфараўна Куляшова прызналася, што такі дзень для яе таксама вельмі радасны. І яе можна было зразумець. Яна — колішняя настаўніца пачатковых класаў, трыццаць сем гадоў аддала школе.

З Магілёўшчыны. Жыла ў вёсцы ў Круглянскім раёне, а працаваць хадзіла за 5 кіламетраў у Бялыніцкі. Пачынала да вайны...

Цяпер баба Надзя, можна сказаць, жыхарка Серабранкі. Перакваліфікавалася — выхоўвае ўнукаў. Апошняя, шостая ўнучка — Сюзана.

Тое, што мы спаткаліся са старэйшай беларускай настаўніцай — чысты выпадак. Але выпадковым ніяк не назавеш тое, што Надзея Нікіфараўна з унучкай апынуліся менавіта ў школе № 2. Гэта адна з тых нямногіх школ сталіцы, якая не перастала існаваць як беларускамоўная, пасля таго, як беларусізацыя раптам у нас «затармазіла». Баба Надзя хоча, каб і ўнукі яе заставаліся беларусамі.

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**

## БЕЛАРУСЬ—В'ЕТНАМ: ДЗЕ НЯМА ДАКУМЕНТАЎ, ДАПАМОЖА АЎТАРЫТЭТ

**29 жніўня прайшлі перагаворы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і прэзідэнта В`етнама Чан Дык Лыонга сам-насам, потым у пашыраным складзе — з удзелам членаў в'етнамскай дэлегацыі, а таксама прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, старшыні праўлення Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча, дзяржаўнага сакратара Савета Бяспекі Віктара Шэймана і іншых афіцыйных асоб рэспублікі.**

Чатыры новыя двухбаковыя пагадненні, падпісаныя падчас знаходжання ў Беларусі в'етнамскай дэлегацыі на чале з прэзідэнтам гэтай краіны Чан Дык Лыонгам, ставяць мэтай далейшае ўмацаванне беларуска-в'етнамскіх сувязяў у розных галінах жыццядзейнасці. Тры міжурадавыя дакументы былі ўрачыста падпісаны ўчора ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а яшчэ адзін — на ВА «БелАЗ».

Пасля цырымоніі падпісання Чан Дык Лыонг назваў адным з найбольш важных Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствам адукацыі РБ і Міністэрствам адукацыі і падрыхтоўкі кадраў СРВ, пад якім паставілі

(Заканчэнне на 2-й стар.)



### УСМІХНЁМСЯ



Нечаканая сустрэча.




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## НЕ ФІНАНСАВЫ КРАХ, А ПАЛІТЫЧНЫ ПСІХОЗ

**Пасля вяртання беларускага прэзідэнта з Украіны, дзе яго застаў расійскі фінансавы крызіс, Аляксандр Лукашэнка не толькі не змяніў ранейшых пазіцый, але стаў нават яшчэ больш рэзкім у ацэнцы падзей, якія адбываюцца апошнім часам у Маскве. 31 жніўня, на сустрэчы з журналістамі, ён назваў гэта «чарговым палітычным псіхозам», які «не мае нічога агульнага з эканомікай.**

«Ідзе балбатня, безвыніковы палітычны гандаль, і ніхто не думае пра людзей,» -- заявіў беларускі прэзідэнт. Але нават у падобнай сітуацыі ёсць станоўчы бок. Напрыклад, Аляксандр Лукашэнка лічыць, што менавіта сёння ў Расіі склалася ўнікальная сітуацыя, якая садзейнічае і падштурхоўвае маскоўскае кіраўніцтва да канкрэтных інтэграцыйных крокаў паміж Беларуссю, Расіяй і Украінай ва ўсіх сферах жыцця. «І калі мы не зробім гэтыя крокі, то здзейснім чарговае злачынства перад сваімі народамі».

Праводзячы паралелі паміж метадамі рэфармавання эканомікі ў Беларусі і Расіі, А. Лукашэнка заўважыў, што беларускі бок застаецца прыхільнікам не знішчальных рэформаў, а спакойнага ўдасканалення існуючага патэнцыялу.

Адначасова А. Лукашэнка заўважыў, што сённяшнія цяжкасці ў Расіі з'яўляюцца выключна праблемай выбару далейшага шляху краіны, таму яе кіраўніцтву і прыдзецца вырашаць гэтую праблему.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 31 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 59200 | 59800 | 32900 | 33420 | 5000 | 6280 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 59500 | 60000 | 32200 | 33500 | 6200 | 6300 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 58500 | 60000 | 32700 | 33500 | | | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 50000 | | 27940.77 | | 5250 | | Курс на 01.09.1998 |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## СТУДЭНТЫ -- ЗА ПАРТЫ, А НЕ «НА БУЛЬБУ»

Сёлетняй восенню шчыраваць на бульбяных палетках студэнтам не давядзецца. Ва ўсялякім разе ніякіх распараджэнняў «зверху» на гэты конт не паступала. Відавочна, практыка атрымання ведаў не за партай у аўдыторыі, а на бульбяным полі застаецца ў мінулым. На сённяшні дзень гаспадаркі краіны дапамогі ў студэнтаў не просяць, бо ў большасці калгасаў сваіх сіл хапае. Калі ж патрэба ў студэнцкіх руках узнікае, гэтае пытанне вырашаецца на ўзроўні органаў мясцовага кіравання. Як паведаміла намеснік упраўлення па выхаваўчай рабоце Міністэрства адукацыі Яўгенія Міхнюк, ужо летась «на бульбу» выязджалі толькі асобныя атрады.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 34 (152)**




## Прадаецца

- Тынкавальны агрэгат, новыя колы да машыны ГАЗ-52, пярэднія крылы да машыны ВАЗ-21-01. *Тэл. у Валожыне 55-2-25*
- Дом з г/п на беразе р. Нёман у добрым стане. *Тэл. (261) 3-33-25.*
- М 2140 1982 г. вып. Капрамонт рухавіка і тармазной сістэмы ў 1997 г. Запчасткі да яе. *Тэл. у Стоўбцах 3-83-69*
- Матацыкл ІЖ-Планета з-к, з каляскай або памяняю па бартэру. *Брэсцкая вобл. Ляхавіцкі р-н. а/с Жарабковічы. в. Кожахі. Якавенка В.Е.*
- ВАЗ 2103 1979 г. вып. у добрым стане. 1300 у.а. торг магчымы. *Тэл. у Паставах 2-43-47 у любы час.*
- Жарэбчык 1,5 года. в. Заеліца, Глускі р-н Магілёўскай вобл. *Тэл. (230) 31-7-13 Лугіна В.С.*
- Кацёл ацяпляльны з воданагравацелем і батарэямі. *Тэл. 295-11-05. Сёмкаў гарадок. Аземша Н.Г.*
- Аўтамабіль ГАЗ-52 у добрым стане, нядорага. в. Руднае, Капыльскі р-н. Бурак Сяргей Леанідавіч. *Тэл. 36-7-67.*
- Конь. 4 гады. Кузаў ІЖ Комбі і другія запчасткі. *Тэл. 93-735. Воранава Ганна.*
- Дом з г/пабудовамі ў в. Ляхавічы. Іванаўскі р-н. Нядорага. *Тэл. у Іванаўскім раёне 31-5-95. Саханчук П.А.*
- Трохгадовая кабыла. *Вёска Навасёлкі 39 Мінскага раёна.*
- Блокі фундаментныя нядорага. Бярэзінскі р-н. *Тэл. (215) 5-34-39*
- л/а ВАЗ-21063, 1988 г.в. Колер зялёны, фаркоп, добры стан. Званіце, дамовімся! *г. Беразіно (215) 5-46-18.*

## Куплю

- Дом у вёсцы ў напрамку Маладзечна (па ходу электрычкі) 40-60 км. *Тэл. (017) 250-93-38.*

## Рознае

- Мяняю а/м ВАЗ-2103, прабег 75000 на трактар Т-25 у любым стане, або прадам. *Тэл. (02156) 2-48-84.*

### АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб 810.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з мінчанінам 25-42, 170-190. Аб сабе: 28/170, сімпатычная, стройная, адукацыя вышэйшая, замужам не была.

**Аб 811.** Добрая дзяўчына, без шкодных звычак, па гараскопу Рак, рост 165, 19 гадоў пазнаёміцца з сімпатычным вясёлым хлопцам да 24 гадоў. Пішыце. Адкажу ўсім.

## Беларускі стыль «бярэ» Еўропу

**Нядаўна ў горадзе Брно (Чэхія) на буйнейшым у Цэнтральнай Еўропе выставачным комплексе адбыўся Міжнародны кірмаш Моды «Стыль» і сярэднееўрапейскі кірмаш абутку і скураных вырабаў «Кабо», дзе былі прадстаўлены калекцыі сезона «вясна—лета 1999 года».**

16 краін свету прынялі ўдзел у Брнянскай выстаўцы. Дзякуючы садзейнічанню пасольства Рэспублікі Беларусь у Чэхіі ўпершыню тут была прадстаўлена калектыўная экспазіцыя беларускіх прадпрыемстваў — «Мілавіца», «Канстанта», «Калінка», — у рабоце выстаўкі прынялі ўдзел кіраўнікі шэрагу іншых прадпрыемстваў галіны.

Выстаўку наведалі Пасол Рэспублікі Беларусь у Чэхіі Уладзімір Бельскі, а таксама другі сакратар Пасольства Леанід Астаповіч.

**Таццяна БЯЛОВА.**

**Ликвидируется ООО «РИНА Ю и К».**

**Претензии принимаются в течение одного месяца со дня опубликования объявления.**

# Гімн электроннай таблетцы,

## або Вашы хваробы лечыць сам арганізм

**Ніколі не чула, каб людзі складалі вершы ў гонар таблетак ці якіх іншых медыкаментаў. Ну, скажам, чаму не напісана ода нітрагліцэрыну ці аспірыну, паэтычнае прысвячэнне фесталу альбо пеніцыліну? Гэтыя шырокавядомыя лекі часта дапамагаюць выжыць, падтрымаць нармальнае самаадчуванне мільёнам жыхароў планеты. Але ж не, чамусьці не натхнілі на паэтычныя радкі такія карысныя медыцынскія прэпараты... Можа таму так уражваюць вершы, напісаныя пацыенткай Верай Некрашэвіч у кнізе водгукаў медыцынскага цэнтра «Надзея» (Мінск, Жудро, 40) аб так званай «Крамлёўскай таблетцы»**

— Што ж гэта за таблетка такая ўсемагутная, выратавальная, — пацікавілася я ў доктара рэфлексатэрапеўта, кіраўніка цэтра мікрахвалевай рэзананснай тэрапіі «Надзея» Алены Нікіцінай. — І чаму яе называюць «крамлёўскай, ці не таму, што першымі таблеткамі сталі з поспехам для здароўя карыстацца высокія чыноўнікі з Крамля?

— Таблетка, пра якую вы кажаце, гэта аўтаномны электрастымулятар страўнікава-кішэчнага тракту — скарочана АЭС ЖКТ. Калі на больш простай мове, то гаворка ідзе пра мікраэлектронную капсулу. Яна дазволена Міністэрствам аховы здароўя Беларусі для выкарыстання ў клінічных, амбулаторных і дамашніх умовах. Гэта ўнікальная «таблетка» адзначана залатым медалём на выстаўцы «Транссібэкспа-95». Мікраэлектронны блок з'яўляецца першым у медыцынскай практыцы аўтаномным прыстасаваннем, якое, трапіўшы ў арганізм чалавека, ажыццяўляе стымуляцыю і эфектыўную карэкцыю дэградуючых сістэм і органаў. Прымяненне электроннай таблеткі — найбольш просты і эфектыўны метад аднаўлення здароўя, прафілактыкі самых розных захворванняў. Найбольшы эфект капсулы заключаецца ў самадэтаксікацыі і самаачыстцы арганізма ад шлакаў за кошт нармальнага функцыянавання ўсяго страўнікава-кішэчнага тракту.

Як і аказалася, пра сувязь электроннай капсулы з Крамлём Алена Мікалаеўна нічога дакладна не ведае. Пэўна, лічыць яна, так яе ахрысцілі ў народзе, таму што па савецкай традыцыі новае і эфектыўнае лячэнне заўсёды можна было атрымаць у цэнтры. Вось і склаўся «крамлёўскі» імідж «таблеткі».

А між тым, электроннай таблеткай пралячыліся ў медыцынскім цэнтры «Надзея», які існуе ўжо не адзін год, тысячы жыхароў Беларусі. І многія, упершыню сутыкнуўшыся з нетрадыцыйным метадам лячэння, якое прынесла ім адчувальную палёгку, а то і пазбаўленне ад фізічных пакут, сталі актыўнымі яго прыхільнікамі. Дарэчы, пацыентамі цэнтра «Надзея» ў большасці сваёй з'яўляюцца людзі, якія доўгі час лячыліся па клініках, перанеслі цяжкія аперацыі і ўжо амаль страцілі надзею на выздараўленне.

— Я гэта добра разумею, — кажа Алена Нікіціна, — бо па адукацыі сама медык, працавала ў гарадской паліклініцы ўчастковым доктарам. І часта зведвала расчараванне з-за таго, што не магу дапамагчы сваім пацыентам. Традыцыйная медыцына звычайна лечыць вынік, а не прычыну. Лячыць жа трэба ўвесь арганізм, і разглядаць яго як адзіную біялагічную сістэму, у якой усё непарыўна звязана. Людзі, якія часта хварэюць, павінны самі задумацца аб тым, чаму з імі гэта адбываецца, што яны робяць супраць сваёй прыроды. Мне здаецца, што большасць людзей знаёмыя з паняццем «біяполе». Гэта так званы электрамагнітны каркас, які ахоўвае арганізм чалавека ад негатыўнага ўздзеяння асяроддзя. У хворых такі каркас аказваецца пашкоджаным, прабітым, нібы нейкай злавеснай зброяй, у многіх месцах. Навука ж дае адказы на тое, што разбурае біяполе чалавека, робіць яго безабаронным перад рознымі хваробамі. Гэта ўласная і чужая агрэсіўнасць, нецярпімасць, злоснасць, прыдзірлівасць, крыўдлівасць... Негатыўныя працяглыя ўздзеянні на энергетыку могуць разбурыць увесь арганізм. Кожны чалавек, у якога з'явіліся праблемы са здароўем, можа, канешне, звярнуцца да тэрапеўта, неўрапатолага, рэўматолага, і той, у залежнасці ад ступені сваёй кваліфікацыі паставіць яму дыягназ і пачне лячэнне. Але здароўе кожнага чалавека ў яго уласных руках. Любую хваробу можа вылечыць сам арганізм, калі яму дапамагчы, — у яго невычарпальныя ўнутраныя рэсурсы, усведамляючы пры гэтым, падкрэслю, што без вашага душэўнага камфорту, спакою і раўнавагі справа не зрушыць з месца.

Да безмедыкаментознай медыцыны ў нашым грамадстве ставяцца пакуль што з пэўным недаверам. Хаця пакутуюць ад перанасычэння хімічнымі прэпаратамі як дарослыя, так і дзеці. Усё больш з'яўляецца хворых з дыягназам «алергія», «зніжаны імунітэт», «хранічная стомленасць», «неўроз», «дэпрэсія»...

А многія проста па інерцыі лечацца традыцыйна, вытлумачваючы гэты факт тым, што нетрадыцыйнае лячэнне, маўляў, каштуе немалых грошай. Як быццам лякарствы, якія хворыя выпісваюць і купляюць у аптэцы, у нас бясплатныя. Алена Нікіціна, прынамсі, лічыць, што традыцыйнае і нетрадыцыйнае лячэнне павінны ўзаемадапаўняць адно аднаго. Бо тое, што не ў стане зрабіць традыцыйная медыцына, з поспехам ажыццяўляе нетрадыцыйная. Напрыклад, метад мікрахвалевай рэзананснай тэрапіі, адкрыты кіеўскім прафесарам Сяргеем Сіцько ў канцы 80-х гадоў, дазваляе ліквідаваць дэфекты ў электрамагнітным каркасе арганізма. Ад іх можна пазбавіцца, калі ўздзейнічаць на біялагічна актыўныя кропкі міліметровымі хвалямі рэзананснай для таго ці іншага чалавека частаты.

— Мікрахвалевая рэзанансная тэрапія — МРТ — гэта мост паміж багатым лячэбным вопытам усходняй медыцыны і сучаснымі ўяўленнямі сусветнай, у прыватнасці, еўрапейскай навукі пра фізіку жывога, — кажа Алена Нікіціна.

**Таццяна БАБРОВІЧ.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ДЗЯРЖАЎНАГА ПАДАТКОВАГА КАМІТЭТА

Дзяржаўны падатковы камітэт Рэспублікі Беларусь выдаў зборнік «Нарматыўныя дакументы па пытаннях падаткаабкладання». Зборнік з'яўляецца вынікам работы спецыялістаў Дзяржаўнага падатковага камітэта па абагульненню і сістэматызацыі ўсіх дзеючых нарматыўных актаў прымяняльна да сферы падаткаабкладання. У зборніку сабраны асноўныя нарматыўныя акты, якія рэгулююць парадак налічэння і платы падаткаў і збораў, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, якімі трэба кіравацца для забеспячэння правільнага налічэння, поўнага і своечасовага ўнясення падаткаў у бюджэт. Даны зборнік афіцыйнае выданне Дзяржаўнага падатковага камітэта, складаецца з трох тамоў, аб'ём якіх складае 2000 старонак верагоднай і поўнай інфармацыі па пытаннях падаткаабкладання. Аўтарамі-складальнікамі зборніка з'яўляюцца начальнікі шасці ўпраўленняў Дзяржаўнага падатковага камітэта пад кіраўніцтвам Старшыні — Н. Н. Дземчука. Эксклюзіўнае права на ўзнаўленне і распаўсюджанне зборніка атрымала ЭКП «Светач».

Дзяржаўны падатковы камітэт рэкамендуе падаткаплацельшчыкам выкарыстаць даны зборнік у практычнай рабоце, як найбольш поўны і верагодны збор нарматыўных дакументаў.

У сувязі з частымі выпадкамі выпуску ў свет падобных выданняў, якія ўтрымліваюць перадрукаваныя дакументы па пытаннях падаткаабкладання і нярэдка ўтрымліваюць памылкі, Дзяржаўны падатковы камітэт папярэджвае, што за верагоднасць і дакладнасць такіх выданняў адказнасці не нясе.

Інфармацыю аб набыцці зборніка можна атрымаць па тэл. (017) 222-38-28; 222-38-37.

**Прэс-цэнтр Дзяржаўнага падатковага камітэта.**

### ВІНШАВАННІ

**Самыя шчырыя віншаванні з днём нараджэння, пажаданні здароўя, шчасця, дабрабыту дасылаюць:**

**Любові Цімафееўне НЕСЦЕРАВАЙ** з в. Макарава Маладзечанскага раёна Вера і Канстанцін.

Нявестцы **СЫРАВАТКА Таццяне** з юбілеем свякроў Ніна з в. Цяглевічы Зельвенскага раёна

**ДУДЗІЧ Алёну Сцяпанаўну** з Воранава муж і дзеці

**Эдзіку ЛУНІНЦУ** са Смаргоні бабуля Ніна з Камелішкаў Астравецкага раёна.

**Андрэю МАРЦІНОВІЧУ** Аляхновічы Галіна, Антон, Меланння з вёскі Камелішкі Астравецкага раёна

**ДУДЗІЧ Веры Васільеўне** з в. Мацевічы дзеці і ўнукі з Воранава.

**Віктару Міхайлавічу КАНІЎЧАНКУ** з 75-годдзем. Матусевіч, Пятушына з Крупак.

Любаму куму **СУШУ Мікалаю** Жлобіч Т. А. з в. Чырвоны Дар.

**БУРТЫС Алене Леанідаўне** і **ХАРЛОЎСКАМУ Юрыю Леанідавічу** бацька, маці, сястра Марына, яе муж Алег і пляменнік Раман са Смалявіч.

**Канстанціну ДОРАХУ** яго жонка Вера Дорах, сястра Каця, унук Дзіма з в. Маркава Маладзечанскага раёна.

З нагоды 70-годдзя **Надзеі Дзмітрыеўне РАМАНЧЫК** з в. Падбор'е Навагрудскага раёна. Дзеці і ўнукі.

**ЖЫДОВІЧУ Віктару Флоравічу** з в. Суцін Пухавіцкага р-на. Жонка і сыны.

**Васілю Сцяпанавічу ШАМШОРЫКУ** з в. Адрыжын Іванаўскага раёна з нагоды 70-годдзя. Дзеці і іх сем'і.

Дарагому сыну, дзядзечку і брату **ГАВЯДКОВУ Пятру Іванавічу** не толькі з нагоды нараджэння, але і сярэбранага вяселля. Семянцовы з Рагачова.

Сыну **Дзмітрыю Яўгенавічу СЦЯШКО**. Бацькі з Вілейкі.

Дарагой жонцы, бабулі, матулі **АРАШКЕВІЧ Ганне Сцяпанаўне**. Муж, два сыны, дачка, зяць і ўнучка Надзейка.

**НАГУЛЕВІЧУ Анатолю** з в. Вераб'евічы Навагрудскага раёна. Бабуля Алёна, маці, сёстры.

**АФАНАСЕНКУ Аляксандру Сцяпанавічу** з г. Ветка. Сяброўка Жана.

Любімай жонцы, мамачцы, бабулі **ШКУРКО Ніле Міхайлаўне**. Муж, дзеці, унукі з в. Парэчча Акцябрскага раёна.

**ПЯШЭВІЧ Ірыне Мікалаеўне.** Родныя з Жыткавіч.

**Сяргею Іванавічу ДРЫГВАЛЮ** з в. Вензавец. Жонка і дзеці.

**ПАКЛАДОК Алене Мікалаеўне.** Сяброўка з Маладзечна.

**МАРОЗУ Сяргею Сяргеевічу** з Вілейскага раёна. Маці, жонка, дзеці.

**Генадзю Міхайлавічу КУЛЬШУ** з в. Жасцінае. Жонка і дзеці.

**ЛІПНІЦКАМУ Станіславу Антонавічу** з вёскі Вішнёўка Мінскага раёна. Сябры.

Любай матулі **РАШЧЭНЯ Веры Фёдараўне**. З Любані дочкі Вераніка і Святлана, сын Мікалай.

З нагоды 60-годдзя **Пятру Канстанцінавічу ГІЛЮ** з в. Суднікі Валожынскага раёна. Сям'я Пятровічаў з Валожына.

**Міраславу Аляксандравічу СЯМАШКУ.** Бацькі з вёскі Ліпкунцы Воранаўскага раёна.

**Сцяпану Лявонавічу ХВЕДЧУКУ** з Брэста. Швагер Міхаіл з Камянецкага раёна.

Ад усяго сэрца віншуем дарагую жонку, мамулю, бабулю **ЮЦКЕВІЧ Святлану Васільеўну** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, светлых і радасных дзён. Муж, дзеці, унук, сябры па працы.

**Віншаванні са шлюбам і пажаданні веры, любові і надзеі**

**Ірыне АДЗЯРЭЙКА і Івану КУЧКО** даслалі Мухіны з в. Райца Карэліцкага раёна.

**СТАЯНОЎСКІМ Міхаілу і Марыі** з нагоды сярэбранага вяселля дасылае самыя шчырыя віншаванні дачка.

Браты Леанід, Іван, Алег і іх сем'і віншуюць з нагоды 20-годдзя сумеснага жыцця **Віктара і Алену ДУДЗІЧАЎ** з Воранава і зычаць ім удачы і здароўя на доўгія гады.

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

## Пытальнік

### МАРКІ — ПРАЗ СУД?

***Я, Першукевіч Марыя Аляксееўна, 1922 г.н., была прымусова ўгнана на работу ў Эстонію. Звярнулася ў Навагрудскі райвыканкам, каб аформіць дакументы на атрыманне нямецкіх марак. Усе неабходныя дакументы (даведкі з Дзяржархіва г. Гродна і г. Баранавічы) прадаставіла, а таксама двух сведкаў, якія пражываюць у нашай вёсцы і ўжо двойчы атрымлівалі маркі. У райсабесе аформілі пратакол апытання, але на ўдакладненне, калі будуць маркі, адказалі, што мне іх не атрымаць, бо ў сведкаў няма дакументаў.***

*В. Нягневічы Навагрудскага раёна.*

У адпаведнасці з просьбай рэдакцыі ліст чытачкі быў разгледжаны праўленнем Беларускага рэспубліканскага фонда «Узаемаразуменне і прымірэнне». Нам паведамілі наступнае. «Факты і перыяды знаходжання грамадзян Рэспублікі Беларусь у месцах прымусовага ўтрымання, створаных фашыстамі і іх саюзнікамі ў гады другой сусветнай вайны, згодна з пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 мая 1995 года № 241, вызначаюцца камісіямі па прызначэнню пенсій райвыканкамаў на падставе заявы грамадзяніна і прадастаўленых дакументаў. Пры адмове камісій ва ўстанаўленні ўказаных фактаў і перыядаў грамадзяне маюць права абскардзіць гэтае рашэнне ў судзе, куды мы і раім Вам звярнуцца».

### БЯРЫ РЫДЛЁЎКУ І РАТУЙСЯ АД ВАДЫ

***На сядзібе вадой заліло палову агарода і хляўчук. Для сцёку вады ёсць канава, але яна знаходзіцца за 15 метраў на суседнім участку. Раней вада сцякала сама, але цяпер суседзі перакрылі сцёк вады, а другога няма. Якія існуюць законы па спуску вады па рэльефу глебы? Хто дапаможа вырашыць гэтую справу?***

*П. Гапанёнак, в. Крулеўшчызна Докшыцкага раёна.*

На гэты ліст чытачкі мы атрымалі адказ з Докшыцкага райвыканкама за подпісам намесніка яго старшыні, начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва спадара Жаўнерка. У афіцыйнай паперы паведамляецца, што дамы Гапанёнак і яе суседзяў з'яўляюцца прыватнай уласнасцю, што была пабудавана ў 50-х гадах у нізкім месцы. Падчас стыхійнага бедства ўчасткі жыхароў былі падтоплены, паколькі рэльеф тэрыторый перашкаджае хуткаму сцёку вады. У сувязі з гэтым Гапанёнак рэкамендавана пракапаць канаву для адводу вады. Як запэўнівае афіцыйная асоба, з боку суседкі, на якую спасылаецца наша чытачка, ніякіх прэтэнзій няма.

**Больш як 200 вучоных з розных краін па заданню СААЗ даследавалі, якая ежа аптымальная для чалавека і колькі яму патрэбна бялку — гэтага галоўнага будаўнічага матэрыялу. У час даследаванняў спецыялісты выявілі вельмі цікавыя факты**

*36,6°*

# ...ЗА АБЕД ПЛАЦІЦЬ, АЛЕ НЕ РАСПЛАЧВАЦЦА

БАГАЦЦЕ ў рацыёне жывёльнага бялку можа пашкодзіць! Арганізм наш, аказваецца, не прыстасаваны да раскошы мясной ежы. Ён проста не паспявае своечасова пазбавіцца ад лішкаў, якія ўтвараюцца пры гэтым, мачавіны, аміяку і іншых рэчываў, што ўтрымліваюць азот. Гэтыя «адходы» асядаюць у розных органах ці «падарожнічаюць» па арганізму, правакуючы развіццё жоўце- ці мочакаменнай хваробы, падагры, рэўматызму, захворванняў суставаў, пазваночніка.

Хочаце скараціць рызыку ўзнікнення падобных захворванняў? Не перавышайце норму, якая замацавалася ў працэсе эвалюцыі: 25—35 г жывёльнага бялку ў суткі (што роўна прыкладна такой жа колькасці мяса ці рыбы — гэта амаль чысты бялок, ці 2 яйкам), калі вы працуеце за пісьмовым сталом, «арудуючы» камп'ютэрам і ручкай. Тым, хто заняты цяжкай фізічнай працай, і будучым матулям бялку патрабуецца ў 2 разы больш.

Чаму так мала? **Чалавек з біялагічнага пункту гледжання практычна ва ўсім бліжэй да бяскрыўдных траваядных, чым да драпежнікаў.**

Многія даследчыкі (пачынаючы з акадэміка І.Паўлава) — канадскі доктар медыцыны Р. Джэнсан, прафесар Е.Мак-Колен звязваюць дачаснае старэнне, развіццё сіндрому хранічнай стомленасці і хвароб унутраных органаў з закісленнем крыві. Яе рэакцыя, як і сліны, павінна быць слабашчолачнай. А прадукты, багатыя на жывёльны бялок, здольныя зрушыць адносную раўнавагу крыві ў кіслы бок.

Наадварот, раслінная ежа, калі яе агульная доля ў рацыёне складае 80 працэнтаў, дапамагае захаваць шчолачную рэакцыю, прычым лепш за ўсё гэта «ўдаецца» ліставой гароднінe, а таксама малочным прадуктам і цытрусавым.

Пры гэтым прыкметна ўзмацняецца супраціўляльнасць хваробам, асабліва інфекцыйным, таму што хваробатворныя мікраарганізмы больш «любяць» кіслае асяроддзе.

З сярэдзіны нашага стагоддзя, калі з'явіліся першыя кнігі японскага спецыяліста па харчаванню Ж. Азавы (Асавы) у Японіі, а затым у Еўропе і Паўночнай Амерыцы, стала распаўсюджвацца новае вучэнне «макрабіётыка» — навука аб прадаўжэнні жыцця, творчага даўгалецця шляхам рацыянальнага харчавання.

Асава абапіраўся на аснову ўсходняй філасофіі — вучэнне аб дваістасці ў прыродзе і пераканаваўся ў тым, што ўсё ў ёй нясе на сабе пэўную інфармацыю, у тым ліку і прадукты. З гэтага пункту гледжання выходзіць, што наша ежа ўтрымлівае «цёплыя» (ян) і «халодныя» (інь) элементы. Адпаведна ежа можа аказваць саграваючае (стымулюючае) і ахаладжальнае (заспакаяльнае) дзеянне.

У выніку Асава класіфікаваў харчовыя прадукты па пераваге гэтых элементаў і распрацаваў некалькі рэжымаў харчавання для лячэння розных захворванняў па прынцыпу процілегласці.

Вострыя запаленчыя працэсы, на яго думку, трэба лячыць ахаладжальнай ежай (інь). Агульная слабасць,ператамленне, дэпрэсія «здымаюцца» сагравальнай ежай (ян).

**ІНЬ-ПРАДУКТЫ: проса, жыта, рыс, капуста, бурак, пятрушка, лаўровы ліст, хрэн, разынкі, садавіна, ягады, алей і сметанковае масла, маргарын, мёд, малако, кефір, сыракваша, тварог, смятана, плаўленыя сыркі, рыба, курацiна, цяляціна, ялавічына, свініна, трусяціна і мяса жаб (на аматара). Усе напоі, у тым ліку і вада.**

**ЯН-ПРАДУКТЫ: пшаніца, авёс, ячмень, чырвоны і чорны перац, кроп, часнок, цыбуля, рэдзька, гарчыца, гваздзіка, імбір, карыца, аніс, каляндра, мак, арэхі, бараніна, качка, фазан, індычка, ікра, крэветкі, селядзец, яйкі, авечая брынза.**

**НЕЙТРАЛЬНЫЯ ПРАДУКТЫ (у іх спалучэнне інь і ян ураўнаважана): грэчка, гарох, фасоля, бульба, морква, памідоры, агуркі, гарбуз, радыска, кавун.**

Прыміце да ўвагі: сучасны чалавек часта знаходзіцца ва ўзбуджаным стане, таму ў яго рацыёне павінна пераважаць заспакаяльная і расслабляючая інь-ежа.

**Старайцеся, каб прадукты былі пераважна з той кліматычнай зоны, дзе вы пражываеце.** Справа ў тым, што і ў людзей, і ў жывёл у розных зонах фарміруецца і розны набор стрававальных ферментаў, прыстасаваных для пераўтварэння ежы, характэрнай для дзенага клімату і асаблівасцей глебы. Некаторыя ферменты могуць наогул адсутнічаць ці быць у няззначнай колькасці — вось чаму многія пакутуюць ад жывата, трапляючы ў іншую кліматычную зону.

Калі, напрыклад, вы жывяце ў гарачым клімаце, аддавайце перавагу інь-прадуктам, тое ж — у час гарачага лета. Жыхарам Поўначы трэба «налягаць» на ян-ежу. **З узростам, калі ў арганізме пачынае назапашвацца энергія холаду, таксама трэба пераходзіць на ян-рацыён.**

Зыходзьце з таго, што даросламу чалавеку трэба каля 600 г сухой ежы і 1,75—2,2 л вадкасці (уключаючы напоі і першыя стравы) у суткі.

**У стандартнае штодзённае мікрабіятычнае меню ўваходзяць 7 частак інь- і 1 частка ян-прадуктаў**. Гаворачы прасцей, 50—60 працэнтаў злакаў, 25—30 працэнтаў гароднiны, прычым 1/3 — у сырым і квашаным выглядзе, да 10 працэнтаў — адварныя бабовыя ці марскія водрасці, 5 працэнтаў — супы з гароднінай і бабовымі ці злакавымі.

Мяса, рыба і птушка могуць займаць не больш за 1/8 рацыёну. І ўсё ж звычайны макрабіятычны рэжым пераважна вегетарыянскі. Яйкі дапускаюцца 1 раз у 3-4 тыдні (прычым недыетычныя). 1-2 разы ў тыдзень можна песціць сябе свежай садавінай, арэхамі і зернем.

А вось **усю ненатуральную, працяглага захоўвання ежу і тую, што падвяргалася складанай апрацоўцы, — газіраваныя напоі, марожанае, шакалад, цукар, каўбасныя вырабы, кансервы і сыр давядзецца выключыць.**

Што дае макрабіётыка? Згодна з водгукамі ўрачоў і пацыентаў, паляпшаецца фізічны і разумовы стан, знікаюць ацёкі, нармалізуецца работа ўсіх сістэм арганізма, дзякуючы гэтаму можна пазбавіцца ад розных хвароб, перад якімі былі бяссільнымі звычайныя метады (у медыцынскай літаратуры апісаны выпадкі поўнага вылячэння артрыту і захворванняў страўнікава-кішачнага тракта, нават дыябету) ці па крайняй меры зменшыць іх праявы: знікаюць боль, ацёкі. Жыццё становіцца працяглым, здаровым, а значыць шчаслівым.

Настрой кухара пэўным чынам уплывае на ежу, а праз яе і на цела, розум і эмоцыі чалавека, які есць прыгатаванае. Прыняўшы гэта за аксіёму, вы зразумееце, што штодзённае гатаванне снедання, абеда і вячэры, нават проста лёгкай закускі і напояў ёсць нешта большае, чым варка, смажанне і сервіроўка стала. Нездарма ў адным старажытным пісанні гаворыцца: **«Не еш ежу, прыгатаваную злым, неразумным і прагным».**

Калі ў вас, «галоўнага па кухні», дрэнны настрой, не крыўдуйце, што страва нават з самых далікатных прадуктаў атрымаецца нясмачнай і нікому не прыняесе ні задавальнення, ні карысці.

Агляд падрыхтавала **І. АНІСІМАВА**, кандыдат медыцынскіх навук.

*«Здоровье».*

## ВІНШУЕМ!

**З днём нараджэння дарагую матулю КАНДРАТОВІЧ Марыю Міхайлаўну і брата КАНДРАТОВІЧА Леаніда Антонавіча з Мастоўскага раёна. Жадаем:**

***Адпачынкаў больш, чым работы,***
***Радасці больш, чым маркоты.***
***Хай вас мінаюць нянасці —***
***Зычым вялікага чалавечага шчасця.***

**Алена і Юра.** *г. Мінск.*

## Рабуюць і ваенных

**Афіцэр адной вайсковай часці прыехаў у вёску Гарадзец Кобрынскага раёна, каб купіць у мясцовым калгасе помпу для паліва, якая сапсавалася ў дэвізійным КамАЗе.**

На аўтастаянцы да маёра падышлі двое мужчын і «папрасілі» грошай. Афіцэр, каб адвязацца, даў ім 60 тысяч.

Але вымагальнікі зразумелі, што ў маёра грошы ёсць і запатрабавалі больш. Калі ж афіцэр не захацеў раскашэліцца, яго моцна пабілі і забралі 300 долараў і 15 млн. рублёў.

У хуткім часе міліцыя затрымала рабаўнікоў. Адзін з іх аказаўся расіянінам, а другі — мясцовым жыхаром.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## *Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

- **1 верасня 1875 года** нарадзіўся вядомы амерыканскі пісьменнік Эдгар Бероўз, аўтар серыі раманаў пра Тарзана — белага чалавека, які стаў «каралём» афрыканскіх джунгляў.
- **1 верасня 1939 года** з нападам фашысцкай Германіі на Польшчу пачалася другая сусветная вайна. Нямецкае кіраўніцтва падштурхоўвала савецкі бок хутчэй выступіць супраць Польшчы, каб ускласці адказнасць за развязванне вайны і на СССР, аднак Сталін адцягнуў гэты момант да 17 верасня, калі ўжо ўся тэрыторыя карэннай Польшчы была занятая вермахтам.
- **У гэты дзень у 1969 годзе** палкоўнік Муамар Кадафі, які ўзначаліў ваенны путч, звергнуў караля Ідрыса і абвясціў Лівійскую арабскую рэспубліку.
- **1 верасня 1983 года** над Сахалінам савецкімі знішчальнікамі збіты «Боінг» паўднёвакарэйскай авіякампаніі, які парушыў паветраную прастору СССР і быў прыняты за самалёт-разведчык. Загінула 269 пасажыраў і членаў экіпажа.
- **У гэты дзень у 1985 годзе** на глыбіні 4000 метраў знойдзены абломкі «Тытаніка», затануўшага ў 1912 годзе пасля сутыкнення з айсбергам.

### Цікава

***Больш як 60 тысяч сноў праананалізаваў за апошнія дзесяць гадоў урач з Пецярбурга Уладзімір Касаткін. І не проста сноў, а тых, якія папярэднічалі захворванням.***

Вось што ён высветліў. Наш сон і рэчаіснасць, з якой мы сутыкаемся штодня, вельмі часта аказваюцца ўзаемазвязанымі. Напрыклад, калі вы ў час сну задыхаецеся, не выключана, што ў вас падымаецца тэмпература. «Падаеце з вышыні» — чакай непрыемнасцяў з сэрцам. Чымсьці цяжкім завалiла — гэта да астмы або нават да паралiча. Аб хваробах лёгкіх вас папярэджаюць начныя сцэны ўдушша, а пры гастрыт і язву могуць намякнуць бачанні замкнутай прасторы. Што ж датычыць так званых кашмараў, гэта, як можна здагадацца, да неўрозаў.

### Дзесьці на белым свеце

***Сярод жыхароў Туманнага Альбіёна імкліва распаўсюджваецца адно з загадкавых і небяспечных захворванняў, якое спадарожнічае цывілізацыі, — тэлефанафобія.***

У мільёнаў брытанцаў настолькі расхістаныя нервы, што звычайны тэлефонны званок выклікае ў іх стрэс. Але калі здаровы чалавек, разлагаваўшыся, проста кідае трубку на рычаг, то хворы ўпадае ў паніку, затыкае вушы, забіваецца куды-небудзь у ванную, дзе не чуваць званкоў, і супакойваецца толькі тады, калі тэлефон замаўкае.

Брытанскія псіхіятры ўсур'ёз заклапочаны ахапіўшай насельніцтва істэрыяй, бо наступствы яе зусім не бяскрыўдныя. Частыя тэлефонныя званкі могуць капітальна расхістаць здароўе чалавека. Пачуўшы характэрнае «трэньканне», чалавек упадае ў паніку і можа страціць прытомнасць. У яго «перахопліваe» дыханне, пачашчаецца сэрцабіццё і з'яўляецца вострыя боль у грудзях. Ужо зафіксаваны выпадкі лятальнага зыходу, калі частыя тэлефонныя званкі даводзяць людзей да інфаркту.

### І так бывае

***Хорст Блазіус адбываў пакаранне за дробны крадзеж у турме горада Льежа. За час свайго знаходжання за кратамі вынайшаў пасту, з дапамогай якой можна бясследна выводзіць адбітак штэмпеля з паштовых марак.***

Адноўленыя такім незвычайным спосабам паштовыя маркі выглядаюць так, быццам толькі што выйшлі з друкарні. Аказаўшыся на волі, Блазіус прапанаваў свой спосаб міністэрству поштаў Бельгіі за салідную суму. Пры гэтым ён указаў, што калі яго прапанова не будзе прынята, то ён сам запусціць пасту ў вытворчасць, і пошта панясе страты на мільёны франкаў.

Сам жа ён патрабаваў усяго 250 тысяч бельгійскіх франкаў. Эксперты пацвердзілі бездакорнасць дзеяння вынаходніцтва і накіравалі сваё заключэнне ў... паліцыю.

Блазіус зноў апынуўся ў казённым доме. На гэты раз — за шантаж дзяржавы.

### А яшчэ быў выпадак

***У Ліберыі па абвінавачанню ў двайным забойстве арыштаваны 62-гадовы вядзьмак. Нядаўна да яго звярнуліся два чалавекі, якія мелі адносіны да мясцовай наркамафіі, і папрасілі зрабіць іх непаражальнымі кулямі.***

Знахар падрыхтаваў спецыяльнае зелле з сумесі траў і абмазаў ім наведвальнікаў з галавы да ног. Кліенты падзякавалі, расплаціліся і ўжо збіраліся пайсці, як лекар сказаў, што хацеў бы асабіста праверыць эфектыўнасць праведзенага лячэння. Папрасіўшы ў аднаго з прышэльцаў аўтамат Калашнікава, ён упэўнена выпусціў па пацыентах дзве доўгія чаргі. На жаль, ці то ён з гадамі страціў кваліфікацыю, ці то сакрэтныя траўкі аказаліся з бракам, аднак кліенты не падзейнічала, і «няўразлівыя» мафіёзі, абліваючыся крывёю, мёртвымі ўпалі на зямлю.

### Кур'ёзы

***Ад душы павесяліліся наведвальнікі невялікага кафэ ў заходнегерманскім горадзе Вісбадэне. За адным са столікаў сядзела бабулька, ела піражное і піла каву.***

Нечакана на парозе з'явіўся мужчына сярэдніх гадоў і, убачыўшы старую, кінуўся да яе з крыкам: «Нарэшце я цябе знайшоў!» Пасля чаго ён сілай адкрыў бабульцы рот і... выцягнуў з яго ўстаўную сківіцу. Пазней высветлілася, што мужчына аказаўся дантыстам, а бабулька — яго пацыенткай, якая не аплаціла зробленую ёй штучную сківіцу. Цяпер паліцыя разбіраецца, хто тут мае рацыю, бо жанчына падала сустрэчны іск за зняваrу.

### Анекдот

*Шыльдачка на дзвярах кабінета ўрача: «Кветкі і цукеркі не п'ю!»*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
***ФАКС**: 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5028.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12